УДК 821.161.3-1
ББК 64(4Беи)
К19

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў*
*«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 59.*
*Заснаваная ў 2009 годзе*

**Кахановіч, І.**
К19 Астэроід : вершы / Ігар Кахановіч. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 124 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 59).
ISBN 978-985-7119-32-5.

У дэбютным зборніку «Астэроід» ўвазе чытача прадстаўленыя выбраныя творы, створаныя аўтарам цягам апошніх сямі гадоў. У трох раздзелах «Мір, падобны да раю», «На арбіце тваёй», «Бог ёсць зіма» змешчаныя вершы створаныя ў класічнай манеры, якія напоўніцу раскрываюць унутраны свет шчырай душы паэта, што гартуецца ў пакутах, спасцігаючы вечныя ісціны: пакліканне, каханне і зямнога прызначэння чалавека.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4Беи)**

**ISBN 978-985-7119-32-5**


*Раздзел І*
# МІР, ПАДОБНЫ ДА РАЮ

## Крыж

Мінулае... мінула. Стаўлю крыж,
Пранесены праз ночы і залевы.
Узрыты дол. Змагаюся паміж
Нябытам і Жыццём — прымайся, дрэва

Апечанага бедамі крыжа!
Жыві, Зямля, няпешчанае цела!
Былое адбыло. Сыходзіць жах.
І зноў у далячынь гляджу я смела...

Там светла і прыгожа. Гэта — я...
Імпэтны крок бярэ матуля-праца!
Галоўнае, каб на мяжы стаяў
Трывалы крыж. Бо час — адмежавацца.

Мінулае не здолее прыйсці
Імклівым рэйдам легіёнаў ліха.
Не пусціць крыж — маланку не пусціў,
Калі яго праз боль цягнуў паціху
На стомленых плячах...

## Маналог Святога Максіма

Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты
Я не самотны — я кніжку маю
З друкарні пана Марціна Кухты.
*Максім Багдановіч*

Чаму змагаюся — пішу?
Малюся Праўдзе, а не Крыўдзе?
...Здаецца, сам і адкажу:
Мой час падумаць пра душу
Яшчэ да старасці надыдзе...

«Максіме, браце, адпачні!» —
Сябры казалі не аднойчы.
Не. Вельмі ж стогнуць карані.
Вядома, свету не змяніў,
Але святлом прылашчыў вочы...

Малюся і на Прыгажосць:
Яна — адзінае збавенне,
Калі бяда ужо на сцэне,
А свет звужаецца шматкроць.

Пішу. Змагаюся. Чаму
Не паддаюся цяжкай стоме?
Стой! Шкадавання не прыму —
Душа цялесную турму
Пакіне. Будзе ў лепшым доме

Глядзець з акна на гэты свет
І — усміхацца, усміхацца,
Раскрыўшы існасці сакрэт!



...Калі прызнаўся, што паэт, —
Працуй. Паспееш адаспацца...

Малюся зноў на Прыгажосць:
Яна — сапраўднае збавенне,
Інакш упаў бы на калені,
Сваіх шырот нялюбы госць...

— Харон! — Чаго табе, сынок?
— Пракаціш мальца на пароме?
...Туман спаўзае на радок,
Снуе пяро: «У белым доме...»

## Важак

*Балада*

«Воды сталі ворагам: за мной!
Тут няма ні шчасця, ні карысці...»
Здзівіцца няўмольны кітабой:
«Так ідуць, нібыта чуюць выйсце!»

Так, ідзём. Даўней (вякоў вякі
Праглынула бездань акіяна)
Па зямлі... ступалі плаўнікі,
Кіт на сушы быў вялікім панам.

Маці расказала. Ад сваёй
Чула. І жыве легендай вера:
Стомішся змагацца пад вадой,
Дык назад пяшчотны прыме бераг...

Гэ! Юнак! Ану, не адставай!
Жонкі, ну збярыце ж добра статак!
Воды сталі ворагам? — Няхай!
Іх чакае — ай, якая — страта!...

Распужаўшы хвалі, на пясок
Асядаюць вольныя гіганты...
Вырваўся... упаў... Яшчэ скачок?!
А важак па сушы робіць крок,
Плаўніком працуючы заўзята...

Здзіўлены бадзяга-браканьер:
— Хвацка! А зірні, якія тушы!
— Капітан, дык нам лягчэй цяпер!
— Сапраўды... Па месцах, чэрці! Рушым!



## Малады кулінар

Па кулінарнай
Кнізе Лёсаў
гатую тонкую страву
беларускае кухні.

Ат!
Не спраўдзіўшы
тэхналогіі,
месцамі спаліў на вуголле,
а месцамі не дапёк,
і — сырое.

Файная страва!
Назаву «Радзімай»...

## Паводле Караткевіча

Трэба выйсці з гульні — паглядзець
    на звычайнае звонку.
Сузіральнасць прыняць,
    як найбольш дасканалы настрой.
...Апусціўшы клінок,
    адпусціўшы гарачыя тронкі,
Выйсці з плоці Гульні —
    да бязмежнага шчырай Душой.

Трэба выйсці з прасторы —
    разумным, упэўненым крокам.
З чыстай верай, што вершы
    асвецяць сунічную кроў
На бялюткай кашулі... Ступаю.
    Ужо недалёка
Край паляны у сонцы.
    Нянавісць аддаў і Любоў...



## Ваўкалачы блюз

Красавіцкая
цемра пойдзе
бадзяцца.

Спаткае мяне.

## Няпростая Надзея

Мы да скону на гэтай вайне,
Хоць астатнія нібы паснулі.
Нас разлічаць раней ці пазней
(Можа быць — у патыліцу куляй).

Не трымаем жалеза ў руках —
Заліваем у словы жалеза.
У пакой Адзінота і Страх
Завіталі: «Гатовы, гарэза,

Да звычайнай размовы ці не?
Ты зашмат працаваў галавою».
Цень нядобры праплыў па сцяне —
Папярэдзіў нашчадка герояў...

Беларусь! Мы да часу гарым
У агоніі неразумення!
Спадзяюся, у скарбе тваім
Ёсць яшчэ Галасы пакаленняў!

На здароўе багаты народ
П'е атруту з бяздоннае чашы.
Але я спадзяюся: стагоддзяў паход
Стрэне Нацыя. Цвёрдая. Наша.



## Кароткі маналог пяра

І пакуль я сяджу у гнілым правінцыйным
закутку,
Не шаную ніякай малітвы, апроч гэтых слоў:
«Божа! Веру: загіну — адкрыта, звычайна і хутка!
Дзеля вершаў — не я іх пішу, МНОЮ пішуцца
зноў!!!»

# Атлантыда

Душой збалелай у эфір бяскрайні выйду —
Сярод шумоў пеленгаваць няўлоўны зык:
Шукаю Крывію (як іншы — Атлантыду) —
Сваіх пачаткаў затанулы мацярык...



# Узыход Сонца

*Памяці Ф. Багушэвіча*

І зразумеў ён: «Кепска будзе!»
І пераможа чортаў лад,
Калі пабачыў, што за суддзі.
«Патрэбны моцны адвакат...»

Балюе здраднікаў арда
І сцеле хабарам свой шлях.
Суддзя (знаёмая праява)
Сядзіць «з банкнотам на вачах».

«І ўсё ж народ — таленавіты!
Хай цёмны, але не дурны.
Добразычлівы, хоць «прыбіты».
Чаму камандуюць яны —

Звяры, падонкі, душагубы?!
Ад іх пакутуе наш край!
І граф «на лапу» суне груба...
Э, не, вяльможны, пачакай!..»

Так пачыналася змаганне:
Супрацьстаяў — адзін за ўсіх,
Ізноў адкінуўшы ваганні,
Паноў законам біў пад дых...

Так «прарасла» літаратура,
Каб мы бязмежылі яе,
Яе засвоіўшы натуру...
Так толькі Сонца устае!..

Хоць і цяпер злачынства лішак,
Хоць і цяпер паўсюль разлад,
Але давёў спадар Францішак:
Паэт — цудоўны адвакат...



## Пагружэнне

Глыбіня атуліць, забярэ,
Дакранецца спеўным успамінам...
На паверхні вораг водзіць рэй:
Там — уверсе — крэйсеры і міны...

Пагружэнне. Хопіць валтузні,
Мітусні, зняважлівых разборак.
Не мая фартуна на кані.
Пад ухіл — у цішыню і морак

Субмарына чорная ідзе.
Неспрыяльны час для маладзёна.
Уцяку — развеюся ў Нідзе,
Дам нырца пад жорсткую надзённасць!

Не мая фартуна на кані.
Не мая сябрына ладзіць веча.
Уратуй, прастора Глыбіні!
Я адзін! І вусцішна, дарэчы...

Разбамбілі наш самотны флот.
Хто жывы — чужому служыць сцягу.
Але я — зусім не ідыёт!
Лепш на дно бязмэтнае прылягу!..

Рой шматкроп’яў — бурбалкі душы —
За кармой імкнецца паслухмяна...
На паверхні я цяпер чужы.
На паверхні ўсё паводле плана...

## Касінер

Яны заплацяць, каб маўчаў,
Або нахлынуць сілай страшнай.
Але абуджаны адчай
Народзіць прагу рукапашнай.

Яны гатовыя на ўсё.
Я — да ўсяго гатовы, каты:
Зацяты, сціснуўшы кассё,
Бягу праз поле на гарматы.

Быў *касаром*, але цяпер
Тапчу мурог высокі, сыты.
Жадае вельмі *касінер,*
Каб вораг першым лёг, забіты.

Яны заплацяць. Дабягу —
Хоць мёртвы — спраўдзіць помсты меру!
...Навокал сечы ляск і гул,
І — жудасць у вачах жаўнера...



## Конунг

*Мроя ў духу фэнтэзі*

Чорнае мора —
стыхія непераможнай Поўначы —
коціць атрамантавыя хвалі
на камяністы пляж...

Змрочная легенда
пачалася штормам,
які пагражае стаць лёсам
большасці людзей,
што мелі неасцярожнасць
нарадзіцца ў мой час.

Не чакаць літасці,
біцца супраць лютасці —
надзённая справа народаў,
праз якія буду пракладаць
гасцінец на квітнеючы Поўдзень.

Неўзабаве
далячынь пакажа
абрысы дракара:
далоні Валгалы
спусцяць на шызую пену
грэбеняў
шкарлупіну арэха смерці,
поўную нязломнай сталі,
і рудабародыя маракі,
убачыўшы, пазнаюць ува мне
свайго легендарнага конунга.

Стаю і чакаю іх —
на ўзбярэжжы чорнага мора,
на мяжы
шаленства чорнага мора
ўласнай душы!..



## Да жураўлінага крыку

*Памяці В. Быкава*

Мае вершы
засталіся там,
дзе я іх пакінуў —

трымаць рубяжы
да жураўлінага крыку.

## Гільза

Стрэльба Наканавання
нарадзіла кулю.
Гісторыя пахіснулася,
запознена
прыкрываючы
сэрца,
і ўпала на калені.

Думалі: памірае.
Але, ператравіўшы
целам свінец,
устае.

Шчоўкае затвор,
і яшчэ гарачая
гільза звініць
па камянях вострава
Святой Алены,
каб спыніцца
і астыць на іх.

Толькі вецер
зайграе-загудзе
раптам
у пустым медным целе,
быццам падае
таемны сігнал
грэнадзёрам Напалеона...



## Фіяска

Імкліва падае
з дрэва
востры, доўгі і вузкі
жоўты лісток.

Залішне ж
аэрадынамічны!

## Дысідэнт

Запалка
расплавіла снег.
А да вясны далёка.



## Гучы!

Гучы, беларуская мова, гучы!
Знікаеш? — Не веру — скажыце глухому!
У стоме смяротнай прыйшоў адпачыць
Да роднага слова — вярнуўся дадому...

Гучы, беларуская мова, звані
Вясёлкай жыцця, глыбінёю набата!
Ты — глеба, што песціць мае карані!
Ты — любая маці! Ты — цёплая хата!

Гучы, беларуская мова! Ніхто,
Навёўшы пагрозу пыхлівага здзеку,
Не змусіць мяне адступіць — пагатоў,
Да скону збіраюся «гэкаць» і «дзекаць»!

Гучы, беларуская мова! І сам
У цяжкім паходзе да зорнасці Смелых
Клянуся тваёю палітрай пісаць!
Пішу, у намеры сваім зацвярдзелы!..

Гучы, беларуская мова, — агнём
Бязвер'ю раба і цынізму вяльможы!
Ліхія абставіны пойдуць на злом!
Я ведаю сэрцам: Ты любіш нас, Божа!

## Адступленне

*Памяці Слуцкага*
*збройнага чыну*

За спіной — прайграныя баі.
Не ўтрымаць і гэтай шэрай вёскі.
За надзелы прадзедаў сваіх
Адступае змучанае войска.

За спіною — пошукі Дабра.
За спіной — зламаныя намеры.
У чужы і падазроны рай
Адыходзяць слуцкія жаўнеры.

На вачах — заходняя мяжа.
На вачах — апошнія слязіны.
За спіною — люты, чорны жаль
Незваротна страчанай Айчыны.



## Секундант

*Абазнаным у простых*
*правілах двубою*

Гром. І — стогн. Схапіўся вораг за плячо.
Я спыняюся, чакаючы адплаты.
Трапіў. Ды не напавал. Стрэл стаў ключом
Да гісторыі, калі невінаватых

Выпраўляе да дзядоў паганы час.
Бо не моляцца на ідалаў эпохі!
Што ж, давай... Ты меркаваў пачуць: «Я пас...»?
Ну, шаноўны, — засталося яшчэ трохі...

Уздымай свой ненажэрны пісталет!..
Ад рукі вяльможнай подласці «гаранта»
Колькі душаў маладых змянілі свет?!
Не забыўся? Не? А помніш секунданта?

...Перамогшы боль і блізкай смерці жах,
Усміхаючыся ціха, пранікнёна,
На маіх, крывёй апырсканых, руках
Патухаў выдатны лірнік Апалона.

Я вярнуўся — падарыў нагоду Бог —
Даказаць, што Гонар, Мужнасць не звяліся.
Я вярнуўся і зрабіў усё, што мог.
Ну! Страляй! — Паміж вачэй, якіх баішся!

## Калыма

*Чытаючы жыццёвыя*
*гісторыі 90-х гадоў XX ст.*

Пакаленне бацькоў... Тупіковасць савецкай эпохі
Пакрышыла ідэі і мары звяла на зямлю:
Адпрацуй, пагуляй... Але варта задумацца трохі,
Параўнаць — атрымаеш выснову:
«Не тое раблю».

...Я не тое раблю. І не страціла вытрымка сілы
Ад маральных атак пакалення чырвоных сцягоў.
Разгарнуўшы імпэтна да вусцішы дужыя крылы,
Падымаюся ў ноч — да разгулу вышынных
вятроў.

Чалавечая зайздрасць пільнуе радарамі волю,
І зенітчыкі подласці пусцяць імклівы зарад:
Мой узровень — нясціплы. Ім гэта даводзілі
ў школе —
Тупіковай савецкай! Вучылі ваўкі зайчанят...

Пакаленне бацькоў: двое з трох — ні сяло
і ні горад.
Заблукалыя лёсы. Пустэльня. Прарока няма.
І ў кілішках — нянавісць, таму што
не спраўджаны голад
Чалавечай душы. Бо навокал яе — Калыма...



## Шоў-мэн

...«Зорка» лялечных шоў. Рэчаіснасць заторгала
ніткі:
Рукі-ногі падкідваеш — скачаш на ўцеху
дурным...
Бог над намі — памёр. Пераплавілі Бога на зліткі.
Неба чорны правал цыгарэтны усмоктвае дым...

## Пяхота

> Нехта, і подлы, і хіжы,
> клятву паўторыць тваю:
> «Біцца за праўду і выжыць,
> нібы салдат у баю!»
>
> *П. Панчанка*

Хоць «чорны дзень» агортвае спякотай
Ці адзінота выстудзіць душу —
Грамадства беларускага пяхота!
Я рады, што ў табе цяпер служу!

Нямала сярод нас фігураў шэрых,
Нямала за спіной тылавікоў...
І ўсё-ткі — нам трымаць нязломны шэраг,
Калі Айчыну цень накрые зноў!

Пагляду штых, граната важкай фразы,
Імгненнае рашэнне ў галаве...
Жыццё аддам — па частках ці адразу:
Няхай краіна родная жыве!



## Апошні эфір

Браты па розуму! Прыём!
На гэтай чортавай планеце
Мы паміраем — не жывём!
Нібы апошнія ў Сусвеце...

Браты па розуму! Сябры!
Прышліце, просім, дапамогу!
Вакол — не людзі, а звяры!
Нас — мала. Іх бязмежна многа...

Ёсць зброя. Ёсць надзейны гурт.
Ёсць вояроў умелых слава.
Але за тыдзень ляжам тут,
Калі насунецца аблава!

Тут — чорнай велічы аплот.
Хоць карабель па нас прышліце!
...А ўслед за ім — вайсковы флот,
І ўсё да пылу разбамбіце!

Вакол — фатальны перакос!
Фартуна больш не дасць авансу!
Як хутка раз'ядае лёс
Паветра Дзікага Праванса!..

## Расстрэл

Зноў паставілі да сцяны —
Да цаглін, ад свінцу шчарбатых.
Шыхт жаўнераў. Мае паны...
Зноў асуджаны я да страты...

Расстраляйце: даволі жыць
У амбітнай да смеху гонцы!..
Каламуць на двары. Імжыць.
Хоць бы зараз — блакіт і сонца!..

Блазнаваў да блюзнерства? — Так.
Кантрабандай правозіў волю? —
Так. Я ў вашым грамадстве — брак.
Ды не каяўся ў тым ніколі...

Так — мастак. Можа, вам няўцям,
Што за смак у адценнях ноты...
Спачуваю. Тупым вачам.
А тлумачыць — няма ахвоты.

Падпіраю спіной сцяну,
У кішэні заклаўшы рукі.
Гэтым разам чакаць труну,
Ці палохаюць толькі, с..кі?..



## Захоплены горад

Горад захапілі дзікуны.
Вогнішчы на Форуме смуродзяць.
Рым, цяпер яны — твае паны.
Рым! Няма каму усклікнуць: «Годзе!»

Хлынулі са сцен, з разбітых брам.
Вуліцы — нібы пасля віхуры.
Далібог, вандал ацэніць храм:
Адбярэ — патрэбнае — з культуры...

Што яму стагоддзяў хараство —
Годнага патрыцыя уцеха?
Звод законаў Рыма стаў жарствой,
Выкінуты ў полымя са смехам...

Грубы дыялект з усіх бакоў,
Лаянкай даважанае слова.
Дзе ты, запавет маіх дзядоў?
Дзе лаціна — гаспадыня моваў?!

Паламаўшы ў бітвах кіпцюры,
Уцяклі арлы за межы лёсу.
Хто цяпер і дзе мае сябры?
Сам хаджу нібы жабрак стары.
Пераможцы пазіраюць коса...

## Уводзіны

Старцы абступілі немаўля,
Апусцілі белыя бароды
У калыску.
— Бачыш: спіць зямляк.
— Дужанькі! Крывіцкае пароды!

— Дольнік, што адважыш малайцу?
Мабыць, шчасця поўныя кішэні?
— Шчасце! Хай заслужыць гэты цуд!
Я даю нягоды і натхненне.

— Збройнік?
— Напачатку — мовы меч,
Крыўду і адплаты чорны голад...
— А пасля?
— Пасля — святую рэч.
— ?
— Ісціны крывіцкай цяжкі молат.

— Што маўчыш, Каханнік? Здрадзіў Лель?
Точаць пацукі ахвярнік Лады?
— Хай бярэ купальскай ночы хмель,
Струнаў шэпт і голасу прынаду.

— Згода. Дастаткова. Час ісці.
Ноч канае. Служба, дабрадзеі!
Ён не раз зняверыцца ў жыцці,
Ды іначай нас не зразумее.

— Час, Крыве-Крывейта. Спі, панок!
Мамку не будзі раней за пеўня!
Хутка ў несмяротнасць зробіш крок —
Першы і да смешнага няпэўны...



## Малітва перад канцом свету

...Толькі, Божа, без болю — хапіла і так
Спадкаемцам шчаслівага Ноя.
Людства — эксперымент. А на выхадзе — брак:
Доля — ёсць, але колькі ізгояў...

Я лічу, справядліва загіне мой свет —
Зноў выносяць крыж Каін і Юда...
Астэроідам? Роем відушчых ракет
Скончыш тое, што мела быць цудам?

Толькі, Божа, без болю — імгнення... Прашу!
Каб Зямля — як адзіная плаха!
Каб не рвала пакута за блізкіх душу!
Каб ніхто не хаваў і не плакаў!

Быццам промні — прароцтвы. Іх фокус — фінал
Нашай, зайздрасцю сточанай, Вежы.
Неўзабаве? Дык згіньце ж, Мана і Вайна!
Хоць я сам вам як частка належу...

## Усплёск

На руінах ілюзій адказы шукаю...
Божа! Ты надзяліў мяне гэткай душой!
Дай жа — рай заслужыць і нацешыцца раем
На зямлі! А нябёсы пакінь за Сабой...



## Апеляцыя

На Страшны Суд заводзяць Мёртвы Час
Суровыя анёлы-канваіры.
Ну вось: цяпер яму даваць адказ.
У зрэнках сведак — доказы, як гіры...

Нянавісці і Крыўды, бачыць Бог,
Аж падае, накладзена у чашу.
— Багата меў злачынных перамог.
Канешне, — зазначае, — праўда ваша.

А ўсё-такі хацеў бы я пачуць
Пра нейкія станоўчыя учынкі
Падсуднага... Вучу я вас, вучу!..
Тады пасля кароткае замінкі

Ўстае шкаляр. І абурэння гул
Прыбойнай хваляй коціцца па зале.
Бог робіць знак. Змаўкаюць.
— Я магу?
— У абарону?
— Так.
— Чакаюць Шалі...

— Хоць я памёр за волю маладым
(У выніку залішне дзёрзкіх крокаў),
Магутны Божа, злітуйся над ім —
За тое, што узгадаваў Прарока!..

## Вяртанне з 90-х

Жыццём знявечана сумленне.
Паганы лёс? Паганы час?
Не стаў падонкам, тым не меней.
І вось вяртаюся да вас —
Не паламаных ураганам
І ў гэтым — лепшых за мяне.
Пакуль душа гаіла раны,
У спрэчках з болем разумнеў...

Збіраў здароўе, як калоссе
Пасля шалёнага жніва.
На цернях сэрца засталося,
Насіла «кулю» галава...

А мне заўжды лягчэй быць шчырым
(Наівам кпіны выклікаў).
Народжаны Святлом і Мірам,
Вяртаюся. Я так сказаў.



## Жыцця майго сталіца

*Ода вяртання*

Куды б ні кінуў лёс, вяртаюся здалёк,
Як птушка з выраю, — заўсёды, неадменна —
У наш маленькі і спакойны гарадок,
У любы Клецк. І вось, дамоў знаёмых сцены

Зноў набліжаюцца стракатаю гурмой,
Як дэлегацыя, каб госця дарагога
Сустрэць належна. Хоць даўно я Клецку свой.
Бацькі аднойчы прывязлі мяне, малога,

З далёкай Драбаўшчыны ў новы, дзіўны свет.
Спярша тужыў, «вясковы рай» шукаў вачыма.
Пасля, гуляючы, асвоіўся як след,
Знайшоў другую — непаўторную — Радзіму.

Бо тут сям'я, сябры і процьма сваякоў.
«Збягаю» часам — маладому ж не сядзіцца.
Але вяртаюся, вяртаюся ізноў.
Ты, любы Клецк, — жыцця майго сталіца!

# Пустата

Пустата на руінах каханняў.
Успамінаў аддалены рык.
Цішыні надламанай заданне —
Да бязмоўя завостраны крык...

І дарога, дарога, дарога...
Лёгкі цень палахлівых надзей —
Паратункам няўлоўнага Бога
Ад бяздушнага Сонца людзей.

Пустата...



# Маякоўшчына

Ведаю —
заручыўся
з бядой,
Якая музу
корміць
скарынкамі!
Пераводзяць паэта
на гной...
Добра, што —
з перапынкамі!

## Мір, падобны да раю...

*Маналог капітана падлодкі*

Мір, падобны да раю, — уяўны, кароткі, наіўны.
Як звычайна, вайна недзе побач — жадаеш ці не.
І ў парыве сляпым рызыкуеш нарвацца на міны
Ды няшчаснай падлодкай дайсці на бязлітасным
дне.

Мір, падобны да раю, трымаюць няпэўныя межы.
А за імі — засады на спешчаных лёсам людзей.
Так, мацёрыя д’яблы нядоўга чакаюць без ежы:
З глыбіні перыскопнай ты, сціснуўшы зубы,
глядзеў...

Мір, падобны да раю, міжвольна забыўся
на беды —
Там іх проста няма; там для змучаных нерваў —
курорт.
Але я адпачыў, а цяпер загружаю тарпеды.
Выйду з вечара ў рэйд, па-англійску пакінуўшы
порт...



## Грэшнік

Перад іконай
агеньчык лампады —

дрыжыць, небарака,
спазнаўшы мой грэх.

## Патрыёт

Туман
паўстаў над вадой —

бароніць
ад ночы
сваю Радзіму.



## Нулявы акорд

У жалобным
строі чорнага
футарала...

Аб кім смуткуеце,
пані Гітара?

## Корань

Іду
п'яны і
наросхрыст...

І раптам
сутаргава ўсведамляю
корань
уласнага стану —

корань прыслоўя
на-рос-ХРЫСТ...



## Песня калючай пожні

Не закіпае ў сэрцы новая любоў.
Сышла былая, як з палёў сышло калоссе.
Няма нянавісці. І стыне, стыне кроў!
А сэрца пожняй непатрэбнай засталося...

Калючай пожняй. Басанож не перайсці.
І хоць удзень пануе верасень лагодны,
Халодны пыл змяіцца ўночы па жыцці,
І стогне лета, выцякаючы з прыроды...

Маё параненае лета! Пачакай!
Бо я ж напоўніцу табой і не сагрэты...
Радкоў разорамі накрэсліць новы май
Маю спрадвечную, маю святую мэту?

## Уратаванне. Маналог пілота

*З матэрыялаў*
*альтэрнатыўнай гісторыі*
*за жнівень 1945-га*

— Ляцім да рускіх. Штурман, — курс!
Іначай — выкляну ць Радзіму.
Не павязу я гэты груз
Да адрасатаў з Хірасімы...

Вайсковай годнасці закон
Дыктуе іншае, вядома...
Ды зараз лепей — у палон,
Але — не вылюдкам дадому...

Мы скінем бомбу... у праліў.
Вось так развяжацца дылема.
Яшчэ дастанецца Зямлі
Ад звышамбіцый «дзядзькі Сэма»...

Да рускіх. Скончана вайна.
А бомба — кропка ў гэтай драме?
Прабачце, містэр Сатана!
Рабіце сваё шоў не з намі!..



## Астэроід

*У перакладзе на чалавечую*

Хай вабяць зноў магутных зорак галасы —
Не даспадобы мне сістэм трывалых межы.
Я — астэроід. Я — Сусвету блудны сын.
Я ў вечным пошуку. Жыву, а не залежу.

Непадуладная фантазіі краса
Перада мной. Майго жыцця святая мэта.
Я — астэроід. Валацуга і карсар.
І, можа, толькі геніяльная камета

Мяне прымусіла б нядоўга паслужыць.
Але парушыцца чарговая прысяга...
Я — астэроід. Я інакш не ўмею жыць.
І гімнам вольнаму — нянавісць і павага...

Я — астэроід. Незалежны, моцны рух.
Я — скамянелая энергія палёту.
І, гравітацыі чужой парваўшы круг,
Ператвараюся ў свабоды вечнай ноту...

## Гаспадыня

Веснавы пал.
Бадзёраму полымю
здаецца,
што яно і ёсць
улада...

Але робяцца
попелам травы,
робіцца дымам агонь,
а зямля —
застаецца...



## Сімвал веры

Можна ціха грашыць. Можна спісваць памылкі
на час.
Можна проста ва ўпор дабрадзейнай не бачыць
дарогі.
Мы не вартыя цудаў. І ўсё-такі верыць у нас
Бог магутны і светлы. Ён больш міласэрны,
чым строгі.

На душу несмяротную ты не прыладзіш медаль.
За твой грэх не адкажа заступнікаў хор
шматгалосы.
Усявышні — не скнара: ты веру Яго апраўдай,
Без ваганняў ступіўшы насустрач упартаму
Лёсу...

## Апошняя куля

Апошняя куля
не баіцца
ні хлусні, ні праўды;
апошняя куля
не баіцца
меркаванняў грамадскасці;
апошняя куля
не баіцца
выпадковых парываў
бакавога ветру;
апошняя куля
не баіцца,
што не здолее
пабачыць свет...

Апошняя куля
баіцца аднаго — не паспець.
І — насуперак
законам фізікі —
паскараецца...



## Плаціна

Старэйшы пляменнік
выпытвае,
адкуль у мяне шчарбіны.

Крык не аднойчы
шалёна імкнуўся на волю,
ды, наляцеўшы
на сцятыя створкі шлюза,
сыходзіў назад...

А малому адказваю:
«Еў шмат салодкага,
Стасік!»

## Беларуская аўтаэпітафія

Спадзяюся, па смерці не будзе бязмежна суровы
Найвышэйшы Прысуд, хоць ахвотна і часта
грашыў.
Бо ў краіне трасянкі і дрэннай расейскае мовы
Я спяліў Беларусь у пякучай, зацятай душы...



## Дзве радзімы

Высокай шчыльнасці хаўрус —
Як лучнасць полымя і дыму:
Радзіма цела — Беларусь,
Паэзія — душы Радзіма.

*Раздзел II*
# НА АРБІЦЕ ТВАЁЙ
*Парады і дэмаршы Кахання*

## Любай

Не любáя — лю́бая! Зважай...
Вер, мая маленькая жанчына:
Без цябе пустое месца — рай,
А з табой — і ў пекле адпачынак.

Без цябе — няўмольны гэты свет
(Ён і так бязлітасны, канешне).
Я кахаю моцна — не сакрэт.
Тым і ўратаваны, хоць і грэшны.

Без цябе — халодны, колкі стог,
Без цябе — з усіх вачэй праклёны,
Без цябе — нашмат слабейшы Бог,
А з табой я сам — прарок натхнёны!

Не любáя. Лю́бая. Але!
Толькі так — пяшчотна і прыгожа!
Адагрэй — я штосьці ўкалеў.
Печ? Кілішак? Ай, не дапаможа!..

Увайшла, танцуючы, ў мой лёс,
Расстраляла смелымі вачамі.
Не прыліп, здаецца, а прырос —
Нервамі, сасудамі, радкамі!..



## Калі...

Калі ізноў амаль забілі
Ці атачыла сэрца зграя,
Тады знаходжу свой мабільны
І гэты нумар набіраю...

Калі, знямоглы і забыты,
Баюся не сустрэць світання,
Я да яе, як да малітвы,
Паўзу у пошуках адхлання...

Калі ў спакоі ненадоўга
І цёплых слоў даўно не чую, —
«Яе ратуй!— прашу у Бога. —
Тады яна мяне ўратуе!..»

## Граф

Страх на межах стаіць, і мільгаюць
лазутчыкі-здані
У далёкіх кутках нескаронага графства душы.
Ноч. Туман. Цішыня. Небяспека.
Малюся Каханню.
Адзінота у сутарзе лютай дрыжыць на крыжы...



## Сон каханай

*Сола на флейце*

Спіш, каханая... Спі, мая светлая, шчырая фея!
Я далёка, але, адмяніўшы прастору і час,
Гладжу лёгка рукой валасоў залатую завею,
Бо яшчэ не заснуў, абавязаны думаць пра нас —

Пра цябе і сябе. І да крыку у гэтым шчаслівы.
Але права на крык я не маю (о, толькі не тут!):
На дзіцячым абліччы трывожацца сноў пераліvы:
То хмурынка, то ўсмешка шляхетнай красою
цвітуць...

Спіш, каханая... Спі — я з табою, з табою,
з табою!
Месяц роўным святлом мне паказваў сцяжыну
праз ноч.
Да крыніцы цяпла ірвануўся астылай душою,
Каб знайсці у юнацтве тваім, што пакінуў
наўзбоч

У юнацтве сваім — прамінуў, не улесціў увагай,
Хоць і варта было разгадаць, пагарэць, пачакаць!
Асцярожна ва ўзножжы я срэбраным ценем
прылягу,
У бязмежнай надзеі дарэшты аддаць і забраць...

Спіш, каханая... Спі, мая светлая, шчырая фея!
Выбіраючы словы, вартую бязгрэшнасць тваю.
Хмель пачуццяў шуміць, тым не меней усё
разумею —
Для асмужанай мроі далёкаю флейтай пяю...

## Смерць на першай праталіне

Стрэліла —
бесклапотна, наўскід...
Трапіла ў апошняе
сэрца...
Так — *жорсткі я*
паміраю — мякчэю...

Сутарга шчасця
працінае знутры.
Курчуся на
першай праталіне,

а насупраць вачэй
з зямлі выпаўзае трава
зычліва-насмешлівым шэптам:
«Кахххаешш!..»

А батарэя ледзяшоў
адстрэльвае кроплямі:
«зноў... зноў... зноў-зноў...»



## На спатканне

Мае справы
скончаныя —
кахаю русалку.

Начапіўшы на шыю
камень тугі,
кідаюся
ў бела-блакітную глыбіню
Інтэрнэт-возера:

пабачымся
недзе на дне!

## Жончыны словы

*Фота з сямейнага архіва*

— Маё шчасце
прыслала... вайна! —
весела зазначае
прабабка Гэля
з пажоўклага
фотаздымка...

— Ну, канешне,
бязногае, дзеткі!
Каб не сышло
ад мяне
нікуды!
Каб усё жыццё
грэла!

А прадзед Саўка,
інвалід Сусветнае бойні,
пыхкаючы махрой
у адчыненым акне,
усміхаецца —
шчыраму лету,
жончыным словам...



## На арбіце тваёй

*Серэнада глыбокага космасу*

Я ізноў на арбіце тваёй.
Хоць на дальняй, няпэўнай, і ўсё-ткі...
Год блуканняў пралёг за кармой.
І на смак — ну нічым не салодкі!

Я шукаў па галактыцы рай.
Сустракаў мудрацоў і вар'ятаў.
А цяпер ты мяне сустракай.
Там адно — пекла сто варыянтаў.

Сустракай! Я вярнуўся з жыцця,
Што ламае і душы, і косці.
Ды нясмела, нібыта дзіця,
Стаў наводдаль, чакаю чагосьці...

Але вось што цікава найбольш:
Не збіраўся сюды паварочваць.
Схамянуліся радасць і боль,
Асвяцілася памяць табой,
І адчуў без малога прарочы
Покліч. Кінуўшы д'яблам свой план
(Шчэ паспею прабіцца ў героі!),
Залучыў. Зноў — не раб і не пан.
Для радараў тваіх — астэроід...

Я ізноў на арбіце — былой.
Нерашучы, натхнёны і смешны.
Выйду з ценю — хачу быць з табой.
Не саб'еш, не прагоніш, канешне...

## Граната

Прыходзіць не пяшчота, а самота.
Ізноў усплыў тапелец-успамін...
Няхай цябе кахае адзінота,
Пакуль гніе табой загнаны клін!

Гранату-смс напоўніў болем,
І шчоўкае, выходзячы, чака...
«Хай шчасця так чакае твая доля,
Як я цябе, каханая, чакаў!»



## Дантэ

*Б. К.*

Не хачу вяртацца. Не цягні!
Хоць у нетрах — полымем каханне...
Нуль, як вынік гэтай мітусні,
Сцяў пятлёй душы маёй дыханне...

Як разведчык, прыйдзе смс.
Адкажу — і зноў ланцуг замкнуты.
Ток пайшоў. Адроджаны працэс,
Можа быць, заслужаны пакуты...

Дзякуй Богу, ведаю, ў чым соль
Гэтай дзеі. Хай натхненне кліча.
Я легендай заплачу за боль,
За тваю нязгоду, Беатрычэ...

Прысвячэнне сціплае: «Б. К.».
Восьмы верш адчайнае эскадры.
І нясе штодзённасці рака
Крыгамі былога шчасця кадры...

## Харакіры

...Ты выцякала
з майго сэрца
праз вялікую колькасць
уласнаручна нанесеных
безнадзейных ран.

І на секунду
працяла вусціш:
а што, калі
апошнія кроплі
выведуць за сабой
і сляпое,
неразумнае жыццё?!

Не.
У вочы
кінуліся фарбы,
вясна
кемлівым чортам
адразу ж захапіла
вызваленыя пакоі...

А ў выніку харакіры
спакойна ўстаў на ногі
і цвёрда крочу далей.



## Рэха апошняй малітвы

Мяне ўзяла на «veni-vidi-vici»...
І хоць каханне лёгка не загіне,
Я больш не буду на цябе маліцца,
Вясёлая і жорсткая багіня!

## Падвойнае забойства

Дзве вясны
ляжаць
з перарэзаным горлам.
Я подбегам, не азіраючыся,
кіруюся прэч,
нібы сам
іх забіў...

А ты,
немагчымая і непазбежная,
стаіш, пазіраеш
з усмешкай услед,
неўсвядомлена
круцячы ў тонкіх пальцах
акрываўлены нож...



## Недасказанае слова

Недасказаным словам
б'ецца ў шыбу
каханне,
але новыя вокны
з падвойным,
патоўшчаным шклом
не пакінулі шанцаў...

І нарэшце — ціха.
Толькі сэнс —
россыпам
пунсовых шматкроп'яў
на шкле...

## Апошняя просьба

Адступаю — у самотнае Ніколі...
Пад настольнай лямпай згортваю паход.
Ты была крыніцай радаснага болю,
Рызыкоўнай мэтай шэрагу прыгод.

З кім жа справу меў? Ты хто — вядзьмарка? фея?
Мабыць, іншы нехта высветліць — няхай!..
Горкі досвед — найгалоўнейшы з трафеяў.
Страціў веру і надзею. Адкахаў?..

Ноч абмыла скразняком маё натхненне,
Рэха бездані налегла на душу.
З кім ты, любачка, сярод пяшчотных ценяў?
Дай патухнуць, знікні з памяці — прашу!



## Дзве кулі

*Залішне вольная ода*

Дзве кулі
прабілі сэрца
і незваротна
заселі там.

Не шукаю
хірургаў.
Мне... зручна
быць
смяротна параненым!

Каця і Ніка!
Вы —
мая абарона
ад сусветнага
эканамічнага крызісу
і глабальнага пацяплення!
Варта
хоць адной з вас
паварушыцца
ўнутры,
як накоціць прыліў
цяжкай, але
прыемнай пакуты —
і астатняе стане другасным...

## Кепская

Кепская!

Сышла, пакінуўшы
без кавалка ўвагі
мяне
і дзевяць
сумесна прыжытых
вершаў!



## Дзелавая прапанова

Гады мінулі ў рамантычным, плыткім сне.
Шмат абяцалі ім народжаныя здані...
Я разумею: не кахаеш ты мяне.
Дык хоць любі маё нястрымнае каханне!

## Патрабаванне

Чаго ты, любая? Скажы!
Зноў дапякаюць успаміны?
Зноў ажываюць міражы,
Што дзень бязлітасны пакінуў?

Пабудзь са мной. Загавары.
Слязінку адпусці на волю.
З табою мы найперш сябры:
Дзяліся — патрабую долю!



## Галоўнае заданне

Цяпер маё галоўнае заданне —
Не мераць свет у пошуках карысці,
А выйграць гэту бітву за Каханне —
Цябе забраць у Неглыбокіх Ісцін...

## Джэнтльменскае пагадненне

Разбітых сэрцаў колькі за табой...
А як не пакахаць такія вочы?
...Прасіў, аддаўшы волю і спакой:
«Маё не разбівай — не трэба двойчы!..»

Туга, трывога, рэўнасці змяя —
Я помню, колькі горычы ў пакуце...
Даруйце, хлопцы: назаўжды мая.
А ёй — за сэрцы вашыя даруйце...



## Смелае абяцанне

Я замалю твае грахі
Выдатным паэтычным сола.
І слову столькі дам вагі,
Што нават гук часціцы кволы

Набудзе гонар, глыбіню,
Набудзе бляск і хваляванне.
Малітву страшна разганю
І звод нябёсаў пратараню!

Яе падхопяць, панясуць
Анёлы, здзіўленыя крыху,
На Міласэрны Божы Суд...
І век, ачышчаны ад ліха,

Аддам табе: «Ну вось, трымай!»
«Адкуль?!» — спытаеш палахліва.
Скажу: «Дзе ўзяў, там больш няма!
Я заплаціў — красуй шчаслівай!»

## Менш, чым адзін

Адступаюць астатнія мары.
Забываюся раптам на іх.
Не хапае цябе і гітары —
Дзвюх такіх для мяне дарагіх!..

Я сумую, прыгожа і светла,
На маўклівай сцяжыне гадзін,
Зразумеўшы пад песні паўночнага ветру,
Што без кожнай з вас — менш, чым адзін...



## Зязюля

Цёплы надвячорак
голасам шчасця кліча...

І душа вылятае
зязюляй,
каб на тым,
недалёкім ад несніц пяшчоты,
узлеску
множыць — да хрыпаты —
твае гады...

## Тры гады

Тры гады: ты ёсць, але няма.
Тры гады вясна ламае крылы.
Тры гады: зіма! зіма! зіма!
Тры гады: надзей маіх магілы...

Тры гады: няўжо самападман?
Тры гады: душой, прынамсі, верны...
Тры гады: манеўры і таран.
Тры гады — прысуд неміласэрны!..



## Твой рэзон

Лепш патухнуць. Але я — гару...
І табе са мной няма спакою.
За каханне, Любая, даруй! —
Жорсткае, нервовае, святое...

«Лепш патухнуць!» — думае вар'ят,
Да краёў няпэўнасцю налiты...
Але і ў тваёй душы разлад
Без маёй распаленай малітвы...

Лепш патухнуць. «Служба» — як праклён!..
Цяжка ўспамінаць скандалаў вусціш...
Тут прасцей не ўверх, а пад адхон.
Але вырашальны — твой рэзон:
Шчасця не даеш і не адпусціш...

## Свечка па няспраўджаным каханні

Што згарэла — з попелу не ўстане.
Зерне не знайшло сваю раллю...
Свечку па няспраўджаным каханні
У начным прадонні запалю...

Лёс-нягоднік падмануў абодвух.
Несвоечасовасць — як турма...
Атрымаў не шчасце, а свабоду.
Побач цэлы свет — цябе няма...

Звершаваў пакуты і прызнанні.
Хто-ніхто з сяброў крычыць: «На біс!»
Свечка па няспраўджаным каханні:
Воск маёй слязой збягае ўніз...



## Плявок

Плявок, што сабраў
усе твае пацалункі,
заледзянеў на ляту.

І не толькі ў зіме
справа...

## Папярэджанне

Не падстрэліць сумленне, калі прапаўзу ля яго...
Не спрацуе, як міна, дасведчанай мамы парада...
Падману я цябе. Проста травень пайшоў
з берагоў...
Падману я цябе. І табе спадабаецца. Праўда!..



## Падганяю наступны дзень

Падганяю наступны дзень —
Так наіўна, па-чалавечы...
Там — прытулак маіх надзей.
Там — гаючай зары сустрэча.

Па нягодах пракладваў гаць.
Не аднойчы ламаў дарогу.
І здавалася: пакахаць
Я не здолею больш нікога...

Бо ўзрываў і паліў масты,
Праклінаючы прывід шчасця,
Каб раз'юшаным і пустым
На заснежаны дол упасці...

Хай на дно асядае дрэнь.
Хай пакажа «арла» манета.
Падганяю наступны дзень,
Дзе — чаканыя сэнс і мэта...

# Але

Натхнёнасць забітая пазачарговым надрывам.
Як хворы, аловак бяздзейна ляжыць на стале.
Маё адраджэнне чакае ў Каханні. Шчаслівым.
А тое Каханне — за крушнямі жорсткіх «але»...

Але песімізм не займее трывалай прапіскі
У сэрцы маім. Хоць яно выгарала не раз.
Бруіцца сцяжына — у свет ледзь вядомы,
няблізкі.
Ёсць права на шчасце. Ёсць вера, надзея і час.



# Ніколі

Так, прыгадаю пэўных момантаў красу —
І зноў пакліча ненажэрнае балота...
Я часам гад, але, павер, не прыпаўзу:
Мінула садамазахічная ахвота.

Я ў вернай музыцы тапіў самоты дні
І ўсё-ткі выйшаў з гэтай жорсткай, смешнай ролі.
Любоў, Каханне — гэта служба Чысціні.
А паміж намі не было яе ніколі...

## Дыверсія

Сакавік затрымаў зіму.
Звонкі холад заліў прастору.
І гадаюць усе: чаму?
Бачыш? — Сонейка — у гуморы!

Людзям — клопатаў ладны мех.
А ў паэта — радкі і мроі!
Нагадаў гэты сціплы снег
Пра нядаўняе. Пра былое...

На спатканні разважыў так:
«Плыткі сэнс у дзявочым слове!..»
І сказаў табе, што вядзьмак,
А зіму адпушчу пры ўмове...

— Пры якой? — перабіла ты.
Я адразу:
— Табе цікава?
І пачаў «будаваць масты»:
— Ну, то слухай, якая справа!

Горкі смак у кахання ёсць.
Разумееш мяне, канешне...
Так, у лёсе тваім я — госць,
Але слодычы хочу грэшнай.

Лыжку мёду... Адзіны раз
Пацалуй — за чаканне тое...
І вясною нальецца час,
Ну а я — адплыву з зімою...



Тры дэкады катуем свет —
Не даём палыхнуць зялёным.
Гіне радасны першацвет —
Пад нязгодай і пад заклёнам...

## Абшары кахання

У свядомасці
трывожна пульсуе
чырвоная жылка:
абшары Кахання...

...якое мае з Любоўю
столькі ж агульнага,
колькі паходня,
кінутая на страху,
з вогнішчам падарожнікаў...

Трэба выжыць:
бо жыць адгэтуль — немагчыма
і абысці — нельга...

Купідон Змроку,
узброены арбалетам,
танчыць
у загусцелым паветры
вакол мяне,
зларадна рагоча:
пачвара ведае
вынік вусцішнай дзеі,
але робіць выгляд,
што ў ахвяры ёсць шанцы...

Паглынаю сэрцам стралу.
Абдымаю сэрцам стралу.
Я вітаю сэрцам стралу:
— Ну вось і сустрэліся, лю́бая!..



## Афект

...Нешта ў сэрцы кальне — так, што цемра
патушыць аблокі.
Так, што радасны ліпень арктычнай пустэльняй
дыхне.
Зварухнуліся, значыць, надзеі і веры абломкі.
Бач, вайна за каханне яшчэ ўспамінае мяне!..

## У Дзень Св. Валянціна

Не будзе гнеўных нараканняў.
Не плачу, хоць і ёсць прычына:
Рвуць сэрца кулі віншаванняў
У Дзень Святога Валянціна...



## Цішыня

Кожнаму — свой пакой,
і толькі
цішыня —
адна на дваіх...

*Раздзел III*
# БОГ ЁСЦЬ ЗІМА

## Бліскучы пыл

Бліскучы пыл
асядае на пальцы.

Рассыпаўся
схоплены
промень зоркі.



## Мелодыя

І скончыўся б дзень!
Але адна мелодыя
засталася непадабранай.

Таму пырскаю ў цемры
запальнічкаю струнных
пераабораў —
ці не выбліснуць у адказ
крышталікі
капрызлівых нот?

## Лыжнікі

Зімовы зухаваты надвячорак.
Наперадзе
па сівай сцежцы
тупае бабуля
з двума кіёчкамі.

Даганяю на лыжах
будучыню?



## Ліпеньскі эцюд

Раствараецца час у вагоне бязмэтнага лета.
Проста еду далей, запаўняю памалу красворд...
А раўніна ў акне выглядае надзвычай сагрэтай:
Разнастайнасць зялёнага б’е верагодны рэкорд.

Вецер, з раніцы хмельны, ад сценкі да сценкі
блукае
Па вагоне пустым, нешта ў фортку лапоча,
дзівак...
Адпачынак. Законны. Абдоймы гультайскага раю.
Пачакаюць «аглоблі» — яшчэ ў мяне месяц,
аднак!..

## На крыжы паэзіі

Як гусінае пяро ў атрамант,
акунаю аловак
у хворую на каханне,
а праз гэта
мулкую і пякучую
душу —

каб на зыходзе сіл
выснаваць:
«Дзякую, Божа!»



## Набажэнствы

Папрасіў прабачэння
ў мамы
і пакінуў царкву —
патаемна збег
ад гнятліва-груваcткага
рэчытатыву бацюшкі...

А сёння
воблака святла
з-пад купала
дабраслаўляе
зямную павагу
і ўрачыстую малітоўнасць цішыні
Божай музыкай
на струнах промняў —
хоць святар яшчэ не пачаў...

## «Стопудовая» місія

Цяжка быць
«стопудовым паэтам».
Знешне
ганаровая місія.
А насамрэч —
адчуваецца кожны пуд,
і кожны пуд
налягае па-свойму...



## Накцюрн

Ноч патушыла
радыёстанцыі
чалавечых свядомасцей,
і мне лягчэй лунаць
у чорным,
халодным небе —
нішто не збівае з панталыку
прыборы навігацыі...

Ноч дабраславіла
мае камуфляжныя
хмурныя крылы
на ўвесь тэрмін
свайго панавання.

Зоркі ўверсе
міргаюць зоркам унізе.
Змаўляюцца патаемна
або дражняцца па-сяброўску?

А я паміж імі.
І мне нічога не трэба —
толькі б своечасова
надышоў ранак
і не скончылася ў гэтае
імгненне
ноч...

## «МіГ»

Есть только миг
между прошлым и будущим —
именно он
называется Жизнь...

*З песні*

Душа мая жыве найлепш,
Калі вакол — абсяг шырокі,
А лёгкі і магутны верш,
Як «МіГ», імкнецца праз аблокі...



## Мінскі вечар

Полымя,
што асела
на шыбах,
паддаецца шэрасці.

Вочы шматпавярховікаў
трывожна
праводзяць сонца.

## Прагноз надвор'я

Цёмна-сіні
з водбліскам шэрага
цмок
цягне бараду дажджоў.

У чыёсьці заўтра...



## Першая струна

Закаханая электрагітара
яскрава маўчыць.

Першая струна
сумуе
па вяршынях
неверагоднага сола...

## Стома

Задрамаў
пад ненавязлівы
гоман агню.

Недасяжная
для юнацтва
раскоша!..



## Паветраны пацалунак

Восеньскі лісток
крануў
у палёце вусны.

Паветраны пацалунак
бярозы...

## Добрай раніцы

Выходжу з пад'езда,
і ранішні дужы мароз
радасна
хапае далонь...

Добрай раніцы,
дзядзька Снежань!



## Трыа

У пацяплелым
начным пакоі
захоплена звініць цішыня,
паслухаўшы
выступленне трыа...
А мы — выканаўцы —
гарэзліва свецімся ў адказ
непрыхаванай радасцю —
свечка,
гітара,
я...

## Туды, дзе нараджаецца снег

Хіба можна —
ступаць па зямлі,
калі прырода
так шчыра кружыцца
ў першым снегападзе?!

Чарговы крок —
і я ўжо
на хвалі паветра:
узлятаю туды,
дзе зараз вірліва яднаюцца
ўсе фарбы,
пакідаючы свае праўды
беспрытульнаму рэху
і зліваючыся ў адну —
мацярынскую, першую —
белую...

У сіноптыкаў
нарэшце свята:
угадалі!
А я, не паспеўшы
павіншаваць іх,
кіруюся ў неба — туды,
дзе зараз,
нібыта Збаўца,
нараджаецца снег...



## Бог

Знявечанае адлігаю
наваколле,
прагна раззявіўшы праталіны,
ловіць
гаючы снег.

Бог ёсць зіма...

## Зімовая ноч

Змрок раскалоў святло,
але ў чорным прадонні неба
міргае душа Сусвету.

Пануе зімовая ноч.



## Спатканне

Вецер,
сцюдзёны і цяжкі,
забівае назад
выдых.

Струменямі снегу
з поля
бяжыць насустрач
зіма...

## Сямейны скандал

Неба
бесперапынна
сыпала шчыры снег,
а Зямля
шпурляла яго ветрам
назад
і па ўсіх напрамках...

Стомленыя і пустыя,
хмура
глядзяць у бакі...



## Мароз і сонца

Мороз и солнце — день чудесный!
*А. С. Пушкин*

Ізноў надвор'е супраць нас.
Я з шуфлем у руках загіну!
Зіма ударыла ў адказ
На фанабэрлівыя кпіны...

Падворак за паўсутак... знік!
Вяду ва ўсе бакі траншэі.
Завея з'ела сакавік.
Мароз і сонца — без надзеі!..

Магутна, жудасна мяло!
Шпурляла хвалі снегу поле!
...Заўзята лаецца сяло
І прабівае шлях да волі...

## Прадвесне

Гэты сонечны захад, дзе хмараў разлёт,
Прадвяшчае сезон неспакою!
У вачах, адчуваю, ламаецца лёд.
І зіма адыходзіць. Слязою...



## Травень

Травень.
Гудзе, шамаціць,
варушыцца
кляновая цытадэль.

## Начное дзяжурства

Увечары
вецер-пастух
пагнаў статак хмараў
на поўдзень.

Ох і дояць жа там
бліскавіцы!



## Прынцыповая восень

Дрэвы
толькі разводзяць рукамі:
«Мы памерлі —
прабачце!»

Дождж,
змыўшы фарбы,
змывае
і веру ў жыццё...

У брудным акне
электрычкі —
прынцыповая восень...

# Скачок да сонца

Шэпт захаплення
імкліва бяжыць па сметніку:

падскочыў да сонца
вясёлы,
адважны пакет!



# Моцныя словы

*Дню Волі прысвячаецца*

«Бацька гетман! —
пачынае размову
дэлегацыя. —
Мы стаміліся адпачываць!
Іржавее ліцвінскі гонар!..»

Усё разумею, хлопцы.
Заўтра ж
развяжам вольніцу,
і пачнецца Гульня...

Яны стаяць
у чаканні
канкрэтных загадаў:
зверавата-каржакаватыя —
сялянскія,
высокія, з тонкімі рысамі —
шляхетныя,
чыстакроўныя і з суседняй прымессю,
але аднолькава родныя,
моцныя словы...

## Змест

*Раздзел III*
БОГ ЁСЦЬ ЗІМА

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 59

**Кананові́ч** Ігар

**АСТЭРОІД**

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Н. Кучмель*
Вёрстка *Л. Вайчок*
Карэктар *Н. Кучмель*

Падпісана да друку 6.02.2015. Фармат 80x100 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 5,74.
Ул.-выд. арк. 2,19. Наклад 200 ас. Зак. 43.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.